# Бацькаўшчына

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Пaадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 6 (490) — Нядзеля, 7 лютага 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


## Ня было й няма выхаду...

Відавочна, прыняўшы шчыра да сэрца «заўвагі» Хрушчова, зробленыя падчас справаздачнага выступленьня Мазурава на пленуме ЦК КПСС у Маскве, апошні перад сваёй менскай аўдыторыяй не стараўся больш «паказаць свой тавар» толькі «з добрага боку», як гэта ён, паводля традыцыі, пробаваў рабіць у Маскве. Выступаючы на XVII пленуме ЦК КПБ, які нядаўна адбыўся ў Менску, ён стараўся паказаць стан сельскай гаспадаркі БССР у больш праўдзівым выглядзе, і таму ягоны даклад уяўляе сабой сумны, калі не трагічны, малюнак становішча ў калгасах і саўгасах рэспублікі. Даклад Мазурава ў Менску — гэта суцэльная крытыка ўсіх, хто мае нейкае дачыненьне да сельскай гаспадаркі, пачынаючы ад міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, праз абласныя й раённыя камітэты партыі, пярвічныя партыйныя й камсамольскія арганізацыі, і канчаючы старшынямі калгасаў ды звычайнымі калгасьнікамі. Толькі ЦК КПСС, асабліва Хрушчоў, ну й зразумела, Мазураў робяць усё правільна, ніколі не памыляюцца і ў нічым ня вінаватыя... Так вынікае із словаў Мазурава. Калі-б аб гэтым гаварыў Хрушчоў, ён, зразумела, абінаваціў-бы й Мазурава, і толькі сам застаўся-б у парадку.

Што-ж мы даведваемся з прамовы Мазурава?

Апрача таго, што ўскладзенае ў мінулым годзе на калгаснае сялянства БССР забавязаньне гадовага павялічэньня вытворчасьці прадуктаў жывёлагадоўлі выкананае прыблізна толькі на 30 працэнтаў, мы даведваемся, што затрата працы на прадукцыю збожжа ў БССР каля шасьці разоў вышэйшая ў параўнаньні з цэлым СССР, а кошт вытворчасьці збожжа вышэйшы амаль у тры разы; мэханізацыя сельскагаспадарчых работаў праводзіцца марудна; ніхто ня цікавіцца правільным разьмяшчэньнем кадраў — на становішчах старшыняў калгасаў далей сядзяць няпісьменныя і скампраметаваныя людзі, а спэцыялістыя сельскай гаспадаркі часта працуюць не па спэцыяльнасьці; ашуканствы й прыпіскі моцна ўвайшлі ў практыку кіраўнічага пэрсаналу калгасаў; усюды дрэнная арганізацыя працы; нястача працоўнай дысцыпліны й гэтак далей.

Які-ж выхад бачыць Мазураў з гэтага трагічнага палажэньня?

Ягоныя прапановы й першыя захады ў гэтым кірунку вытрыманыя, бязумоўна, у бальшавіцкім стылі. Магчымасьць узьняцьця сельскай гаспадаркі ён бачыць перш за ўсё ў павышэньні ўзроўню палітычна-выхаваўчай працы сярод сельскіх працаўнікоў. Але Мазураў і яму падобныя мелі ўжо шмат часу, каб пераканацца, што гэты мэтад, які стасаваўся ўжо на працягу ўсяго існаваньня бальшавіцкае ўлады, ня даў, як бачым, амаль ніякіх вынікаў. Значыць, гэта ня выхад. Беларускі селянін ня зьбіраецца ахвяроўваць сваю працу ў замен за пустую прапаганду. Калі-б ён меў магчымасьць адчуваць сябе запраўдным гаспадаром вынікаў свае працы, толькі тады ён выявіў-бы сваю запраўдную энэргію й ініцыятыву, і тады сельская гаспадарка Беларусі напэўна заквітнела-б. Але далейшыя бальшавіцкія мерапрыемствы ў галіне сельскай гаспадаркі не пакідаюць беларускаму селяніну ніякіх надзеяў. І вось гэта й вызначае ягонае дачыненьне да партыйных заданьняў.

А вось прыклад практычных захадаў Мазурава.

Хутка пасьля ягонага выступленьня на пленуме ЦК КПБ ў Менску савецкая прэса й радыё паведамілі, што пастановай прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР скасаваная Маладэчанская вобласьць, а ейная тэрыторыя падзеленая паміж трыма суседнімі вобласьцямі — Віцебскай, Менскай і Горадзенскай. Ніякага тлумачэньня гэтага мерапрыемства не падавалася. Аднак такая раптоўная зьмена ў адміністрацыйным падзеле БССР мусіць мець свае прычыны. Аб іх можна дагадвацца з выказваньняў савецкай прэсы аб палажэньні справаў у вобласьці й асабліва з пасьлядоўнасьці апошніх бэсэсэраўскіх падзеяў.

Як ведама, Маладэчанская вобласьць заўсёды кваліфікавалася, як найбольш адсталася ў БССР. Апрача адставаньня ў галіне сельскай гаспадаркі партыйная прэса ўсьцяж крытыкавала яе й за шэраг іншых «недахопаў». На адміністрацыю вобласьці вялася нагонка за нявыкананьне плянаў сьсяленьня хутароў. Як паведамляла партыйная «Зьвязда», 11-га сьнежаня мінулага году гадавы плян перасяленьня хутароў у калгасныя пасёлкі быў выкананы толькі на 30 працэнтаў. А гэта для партыі вялікая перашкода дзеля праводжаньня «масава-палітычнай працы», гэта, паводля яе, паслабляе працоўную дысцыпліну і перашкаджае змагацца з «моцнымі рэлігійнымі перажыткамі».

На прыгаданым пленуме ЦК КПБ Мазураў войстра крытыкаваў некаторыя раённыя партыйныя камітэты вобласьці за цэлы шэраг заганаў у арганізацыі і кіраўніцтве гаспадарчымі, адміністрацыйнымі і прапагандовымі справамі. Таму няма сумлеву, што праведзенае цяпер скасаваньне Маладэчанскай вобласьці стаіць у непасрэднай сувязі з спробамі Мазурава і іншых маскоўскіх стаўленікаў у Менску неяк апраўдаць перад гаспадарамі свае становішчы. Аднак вельмі сумлеўна, што гэты перараспадзел дасьць якія-небудзь пазытыўныя вынікі. Перабудова разпухлага бюракратычнага адміністрацыйнага апарату спрычыніць, напэўна, на працягу даўжэйшага часу яшчэ большыя непарадкі. Цяжка сабе ўявіць, каб пашырэньне трох суседніх вобласьцяў стварыла магчымасьць лепшага кантролю над адміністрацыяй далучаных да іх раёнаў, ужо хоць-бы з тэй простай прычыны, што цяпер гэтыя раёны будуць больш аддаленыя ад абласных цэнтраў, чымся раней. Да гэтага, палажэньне ў іншых вобласьцях БССР мала чым розьніцца ад палажэньня ў былой Маладэчанскай.

Узважаючы гэта, паўстае пытаньне: нашто была патрэбная гэтая рэарганізацыя? Адказ на гэта можа быць толькі адзін: атрымаўшы нагонку ад Хрушчова, Мазураў хоча паказаць, што ён і ягоныя міністры нешта робяць, прымаюць нейкія захады, каб паправіць палажэньне. Гэтыя захады ўсё-ж можна згары назваць пераліваньнем з пустога ў парожне. Палажэньне можна выправіць перабудовай не адміністрацыйнага падзелу, а цэлай бальшавіцкай бюрократычнай, эксплятататарскай сыстэмы. Выразную апатыю народных масаў да бязглуздых, нічога добрага не абяцаючых партыйных мерапрыемстваў, з аднаго боку, і карупцыю здэмаралізаваных прывілеямі партыйных урадоўцаў — з другога, нельга ўжо перамагчы ўзмацненьнем пустой прапаганды аб уяўным, будучым «камуністычным раі». Наш народ пераканаўся, што ўсе бальшавіцкія лёзунгі аб ліквідацыі заганаў старых рэжымаў у падсавецкай рэчаіснасьці ператварыліся ў поўную супрацьлегласьць. Валадарства-ж ашуканства й гвалту ніколі доўга ня трывала, тым больш яно ня можа трываць у нашыя часы. Аб гэтым мусілі-б думаць бальшавіцкія заправілы, шукаючы выхаду із створанага імі тупіку.

**М. К.**

## Да беларусызацыі... БАПЦ

Кампазытар М. Кулікові закрануў («Б-на», № 1-2, 1960) вельмі актуальнае пытаньне «аб варатасьці і, навет, неабходнасьці паступовага пераводу нашага царкоўнага рэпэртуару на нацыянальна-беларускія рэйкі». Пытаньне гэтае актуальнае тым больш, што ўздымалася яно ўжо больш за дзесяць год таму (гл. зацемку А. К.: «Беларуская царкоўная музыка кампазытара М. Куліковіча», «Б-на», 18. 5. 1949). Нажаль, дасюль у гэтым кірунку бадай нічога ня зроблена. А беларуская царкоўная музыка ў нас ёсьць. У вышэй спомненай зацемцы 1949 году пісалася:

«Шмат гадоў працуючы над дасьледваньнем беларускае народнае песьні, кампазытар М. Кулікові сабраў вялікі матар'ял беларускіх сьпеваў і, грунтоўна прааналізаваўшы іх, змог выбраць зь іх найхарактарнейшыя, тыповыя паводля свае народна-нацыянальнае самабытнасьці й характва народныя песенныя звароты й музычныя фразы. Творча апрацоўваючы беларускія папеўкі ў праваслаўным царкоўным стылі, паводля старадаўных прыкладаў, кампазытар стварыў такім чынам беларускія царкоўныя расьпевы на розныя Божыя Службы, улажыў узоры (галасы) для штодзённага царкоўнага ўжыцьця, а таксама напісаў асноўныя праваслаўныя службы — Літургію й Усяночную».

Ёсьць таксама і ў кампазытара М. Равенскага ўся Літургія, напісаная ім вылучна на беларускіх песенных матывах. Літургія гэтая пяялася, прыкладам, у праваслаўнай капліцы беларускае студэнцкае групы ў Люваэне. Хто чуў гэтую службу ў выкананьні хору люваэнскіх студэнтаў, ня мог не захапляцца ейнай прыгажосьцяй і глыбокім малітоўным настроем. Некаторыя малітвы («Отчэ наш», «Верую», «Херувімская», «Достойно есть») выдадзеныя на кружэлках і лёгкія для пяяньня навет невялікаму хору.

Як бачым, за кампазытарамі справа ня стала. Справа ўперлася, як выглядае, у кансэрватызм, заўсёды ўласьцівы Царкве; у прывычкі, якіх ня можам пазбыцца; у закаранелую нехаць кранацца зь месца, наседжанага іншымі.

Ды гэта ня толькі ў дачыненьні да сьпеву. БАПЦ гэтак-жа памалу робіць прагрэс і ў іншых дзялянках.

Больш за чатырыста год таму доктар Францішак Скарына пераклаў у беларускую мову Біблію. Гэтым фактам ганарыцца кажны Беларус, пра яго мы гаворым на кажным розе ды ім казыраем пры кажным разьліку. Гэта праўда, што Скарынавы кнігі сяньня — музэйная рэдкасьць і што ягоная мова ня сучасная літаратурная. Але гэта ніяк не касуе парадоксу. Бо-ж дванаццаць год таму ў выдавецтве Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства выйшаў Новы Запавет пабеларуску ў добрым (хай сабе й не дасканальным, калі гэтага некаторыя хочуць) перакладзе Антона Луцкевіча. Выданьнем гэтым карыстаўся сваім часам а. Аўген Смаршчок у Люваэне, і было вельмі прыемна слухаць чытаньне Апостала й Эвангельля пабеларуску ў беларускай царкве ды разумець усё, што ў ім гаворыцца. Ня ўсіх, аднак духоўнікаў БАПЦ Бог узнагародзіў наважанасьцяй, бо вось у катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку Апостал і Эвангельле дагэтуль чытаюцца ў мове, што далёка ня зусім зразумелая вернікам — пацаркоўнаславянску. Калі й па іншых прыходах БАПЦ гэтая справа выглядае так-жа, як у Нью-Ёрку, дык ці не пара было-б падумаць, пасьля адсьвяткаваньня дзесяцігадовага юбілею аднаўленьня беларускае герархіі, пра **беларусызацыю Беларускае** Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Мы павінны перш-наперш быць лягічнымі й пасьлядоўнымі. Падругое, мы мусім шанаваць высілак Францішка Скарыны, Антона Луцкевіча й сьветлую памяць усіх тых беларускіх патрыётаў, што прынесьлі гэтулькі ахвяраў, каб пракласьці дарогу роднай мове ў Дом Божы.

**А. Будзіч**

## Новая трэшчына ў маналіце

Камуністычная партыя Савецкага Саюзу, гэта, як цьвердзіць партыйная верхавіна — маналіт, гэта значыць скала, глыба з аднаго кавалка народы. Такія глыбы ў прыродзе вызначаюцца выключнай моцай. Але бывае, што ў выніку, скажам, моцных марозаў ці вялікай вільгаці даюць трэшчыны й маналіты. Тады ад іх адвальваюцца вялікія кавалкі й коцяцца ўніз, цягнучы за сабой і больш дробнае каменьне. Такую трэшчыну — на самых вярхох — даў цяпер і маналіт КПСС. У нядзелю 13-га студзеня ў «Правде» зьявілася лякапічнае паведамленьне аб выбраньні ў двукосьсі Аляксея Кірычэнкі першым сакратаром Растоўскага абкому. Інакш кажучы — аб тым, што гэты магутны партыйны верхавод трапіў у няласку. А цяпер ў гэтай-жа «Правде» зьявілася паведамленьне аб вызваленьні ад абавязкаў першага сакратара ЦК КП Казахстану Мікалая Бяляева.

Як ведама, і Кірычэнка і Бяляеў — сябры прэзыдыюму ЦК КПСС. У газэтных інфармацыях нічога не гаворыцца аб іхным вывадзе із складу гэтага воргану. Зьвяртае на сябе ўвагу аднак той факт, што і ў адным, і ў другім выпадку да іхных прозьвішчаў не было дадана тое, што яны зьяўляюцца сябрамі прэзыдыюму. У супрацьвагу гэтаму, Арыстаў, прыкладам, які быў прысутны на паседжаньні Растоўскага абкому, **быў** названы сябрам Прэзыдыюму й сакратаром ЦК КПСС. Дакладна таксама быў названы й Брэжнеў, які быў прысутны на пленуме ЦК КП Казахстану.

Інакш кажучы, **фактычна** Кірычэнка й Бяляеў, відавочна, выведзеныя із складу прэзыдыюму. **Фармальна** такую меру можа прыняць толькі пленум усесаюзнага ЦК.

Справа Бяляева адрозьніваецца ад бальшыні такіх справаў тым, што яна зразумелая. Як прыгадваем, на сьнежаньскім пленуме ЦК КПСС Хрушчоў вельмі войстра крытыкаваў Бяляева за катастрофу із зборам ураджаю ў Казахстане, асабліва на цалінных землях. «На першага лістапада, — гаварыў Хрушчоў, — у рэспубліцы заставалася няскошаным збожжа на плошчы аднаго мільёна 616 тысяч гэктараў... Справа выглядае нядобра, вельмі нядобра». «Гэтак нельга весьці гаспадарку, таварышы!», — усклікнуў Хрушчоў і дадаў: «Зусім нармальна, калі працаўніка, які не спраўляецца з даручанай справай, замяняе больш здольны чалавек, дасьветчаны арганізатар».

Гэта быў вельмі ясны намёк. Цяпер Бяляеў зьняты — зьняты ганебна, бяз згадкі аб «пераходзе на іншае становішча». Толькі дзіўна, што на ягонае месца прызначаны чалавек, якога таксама крытыкавалі на пленуме ЦК КПСС, былы старшыня савету міністраў Казахскай СССР, Казах Дзіўмухамэд Кунаеў. Праўдападобна, галоўная адказнасьць будзе ўскладзеная не на яго, а на другога сакратара, пераведзенага зь Ленінграду Мікалая Радзіёнава. Як справяцца з ураджаем 1960 году Кунаеў, Радзіёнаў і новы кіраўнік Казахскага ўраду Ташэнеў, пакажа будучыня. А што тычыцца мінулага, дык мы думаем, што не памылімся, калі скажам, што гнеў Хрушчова выкліканы галоўным чынам тым, што ў Казахстанскай няўдачы 1959 году вінаваты ён сам. Менавіта ягоная скарасьпелая ліхаманкавая кампанія ўзвораньня вялізарных цалінных масываў выклікала войструю нястачу кадраў і сельскагаспадарчых машынаў у Казахстане. Кагосьці пакараць за гэтую няўдачу трэба было. Самога сябе пакараць ён ня мог. Таму пакаранымі выяўляюцца людзі, якія выконвалі ягоныя — Хрушчова — дырэктывы — Бяляеў, а магчыма й Кірачэнка, а за імі дзесяткі й сотні меншых апаратчыкаў.

**Р. С.**

## „Сувэрэннасьць" у двукосьсі й запраўднасьць

У савецкай прэсе мы часта спатыкаем ганарлівае акрэсьленьне БССР «сувэрэнная дзяржава». Як доказы й атрыбуты «сувэрэннасьці» казённы прапагандысты будзе пералічаць, што ёсьць беларуская мова, беларуская літаратура, беларускі ўрад і — нават беларускі прадстаўнік у АЗН.

Гаворачы аб'ектыўна, трэба адразу адкінуць фікцыю сувэрэннасьці ўраду й прадстаўніцтва ў АЗН. У Менску Мазураў ці Казлоў мусяць паслухмяна выконваць загады Хрушчова, ў Нью-Ёрку Кісялёў — загады Грамыкі ці іншага маскоўскага вяльможы.

Няшмат лепш з літаратурай і мовай. Найбольшы скарб народу — мова ў казённым друку ператварылася ў савецкі жаргон, засьмечваецца чужымі для духу нашай мовы словамі й зваротамі. Але на гэтым не канчаецца.

Вось яскравыя ілюстрацыі рэчаіснасьці ў БССР.

У чацьвертым нумары «Настаўніцкай газэты» зьмешчаны наступны фатаздымак: Вучні сярэдняй школы гораду Стоўпцы на фоне сваёй насьценнай газэты. Усё быццам-бы ў парадку. Толькі ў вочы кідаецца адна, але вельмі важная дэталь: насьценная школьная газэта ў Стоўпцах чамусьці завецца «Школьные известия», а не пабеларуску «Школьныя навіны».

Быццам-бы драбніца, яна аднак яскрава характарызуе гэтак званую «сувэрэннасьць»..

### ДА ПАВАЖАНЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Нумар «Бацькаўшчыны» за 17-га красавіка сёлета будзе з чаргі 500-ым нумарам. Каб належна адзначыць гэтую важную для нас, а для ўсёй беларускай прэсы на эміграцыі першую падзею, Рэдакцыя плянуе гэты 500-ы нумар сваёй газэты выпусьціць вялікім разьмерам, багата ілюстраваным і разнастайным сваім зьместам. Асаблівым пажаданьнем Рэдакцыі ёсьць, каб усе нашыя супрацоўнікі — публіцыстыя, навукоўцы, паэты, пісьменьнікі, мастакі, гумарыстыя й наагул карэспандэнты, якія да гэтага часу друкавалі свае творы або зьмяшчалі ілюстрацыі на бачынах «Бацькаўшчыны», штосьці-небудзь спэцыяльна прыгатавалі да ейнага 500-га нумару. Пісаць просім на розныя тэмы, не абавязкава зьвязаныя зь юбілеем. Дзеля таго, што нумар гэты будзе прыгатаўляцца й друкавацца загадзя, усе матар'ялы, для гэтага нумару прызначаныя, ветліва просім прысылаць у Рэдакцыю не пазьней 15-га сакавіка сёлета.**

З пашанаю

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»

# Адказ С. Прытыцкаму

Беластоцкая «Ніва», пачынаючы ад 12 кастрычніка 1958 г., праз дзевяць нумароў друкавала ўспаміны Сяргея Прытыцкага пад загалоўкам «У імя будучыні». Той, хто ведае мінуўшчыну й чытаў гэты «твор» Прытыцкага, бачыў, колькі нахабнага перакручваньня, хлусьні й падладжваньня да сваіх валадароў у гэтага зрадніка беларускага народу.

Ад пачатку да канца С. Прытыцкі ўсё супрацьдзеяньне беларускага народу ў былой Заходняй Беларусі польскаму бяспраўю прыпісвае камуністычнай партыі Заходняе Беларусі (КПЗБ). У сувязі з гэтым паўстае пытаньне, як-жа беларускі народ у 1922 годзе правёў у польскі сойм і сэнат 14 сваіх прадстаўнікоў, калі КПЗБ утварылі толькі ў 1923 г., а камсамол — у 1924 г? Аб гэтым Прытыцкі нічагусенькі не ўспамінае.

Прытыцкі ў успамінах піша:

«Кампартыя й камсамол Заходняе Беларусі вялі гераічную барацьбу... Пад іх лёзунгам неаднойчы прыходзілі стачкі й дэманстрацыі... Вось адзін із шматлікіх прыкладаў. Вясною 1933 г. на ініцыятыву камуністых пачалася забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку» («Ніва», 12. 10. 58). Гэтак, ініцыятарам КПЗБ і камсамолу трэба было аж 10 гадоў, каб зарганізаваць забастоўку. А што-ж рабілі праз гэты даўжэйшы час усе прафэсіянальныя «рэвалюцыянеры» тыпу Прытыцкага? — На працягу 10-х гадоў яны выконвалі загад Масквы зрабіць усіх Беларусаў камуністымі, не перабіраючы ані ў сяродках, ані ў тактыцы. Акцыя была сьціраваная асабліва на моладзь... Адных бралі за грошы, іншых угаворвалі, але ў большыні выпадкаў дзеілі правакацыйным спосабам. Падкідаючы камуністычную літаратуру, друкаваную ў Менску, бальшавіцкія агенты адначасна даносілі польскай паліцыі, якая бязь цяжкасьцяў арыштоўвала — пераважна малапісьменных вясковых хлапцоў. Іх польскія суды засуджвалі на 4-5-6-8 гадоў турмы. У вастрозе зь вясковых хлапцоў камуністычныя агенты, якія часта былі сумысьля закінутыя Масквою ў польскія турмы, бязь цяжкасьцяў рабілі маскоўска-камуністычных янычараў. Аднак, перажыўшы па колькі гадоў у вастрозе, ня толькі былыя вязні, але й сотні вясковае інтэлігенцыі на волі, зразумелі, да чаго й якімі мэтадамі імкнецца маскоўскі камунізм. Апынуўшыся на волі, ахвяры правакацыі пачалі ймсьціцца камуністым, выдаючы іх польскай тайнай паліцыі.

«Становішча бастуючых тэкстыльшчыкаў... з кажным днём пагаршалася. Тады на дапамогу ім пад кіраўніцтвам камуністых і камсамольцаў прыйшлі сяляне Беластоцкага й Горадзенскага паветаў. Камуністыя, камсамольцы й спачуваючыя на хурманках з чырвонымі йстужкамі на дугах, аб'яжджалі вёскі й зьбіралі прадукты бастуючым тэкстыльшчыкам», — гэтак піша С. Прытыцкі («Ніва», 12. 10. 58).

Прытыцкі, пішучы пра гэраізм камуністых й камсамольцаў у Польшчы ў 1933 г. ведаў, што ягоныя выдуманыя гісторыі будуць чытаць у краі, дзе небясьпечна пярэчыць узаконенай хлусьні. Але, калі-б у нармальных абставінах аўтар зьвярнуўся з гэткім самахвальствам да старэйшага чалавека б. Заходняе Беларусі, дык яму адказалі-б, што гэта фантазія хворае галавы. У 1933 г. польская паліцыя ня толькі не дазваляла чырвоных істужак на дугах, але зрывала на вясельных урачыстасьцях у маладых і дружкаў чырвоныя гірлянды, калі моладзь чапляла іх сабе. Дапамога бастуючым была, але не ад камуністых і камсамольцаў, а ад сваякоў і знаёмых работнікаў, што блізу ўсе паходзілі зь вёсак Беласточчыны. Нячуваная жорсткасьць польскае паліцыі да беларускага народу была выкліканая, з аднаго боку, польскім паўфашызмам, а з другога — маскоўскімі агентамі тыпу Прытыцкага, што сваймі правакацыйнымі дзеяньнямі сьведама выклікалі гэтую жорсткасьць.

Прытыцкі піша, што былі гэткія вёскі, куды «прыяжджалі ад 50 да 100 паліцыянтаў і разьмяшчаліся па хатэх на 1-2 месяцы. У вёсцы абвяшчалі асаднае становішча. Сялянам забаранялі выходзіць з хат, ніхто ня меў права выходзіць зь вёскі і заходзіць у яе, а хто парушаў гэтае распараджэньне, у таго стралялі без папярэджаньня» («Ніва», 12. 10. 58).

Гэткай прымітыўнай выдумцы былога правакатара не павераць навет ягоныя крамлёўскія гаспадары.

Прытыцкі піша — гэтым разам пра супраціў выконваньню дзяржаўных павіннасьцяў і супраціў камасацыі — што інсьпіратарамі супраціву былі камуністыя і камсамольцы.

Ёсьць народная прыказка: дзе каня куюць, там жаба нагу падстаўляе. Гэтак і тут. Беларускае сялянства бунтавалася не таму, што камуністым так хацелася, а таму, што яго рабавалі, што сельска-гаспадарскія прадукты супраць хвабрычных былі празьмерна бязвартаснымі. Прыкладам, у Польшчы за адну скрыначку сярнікоў селянін траціў 5-7 яёк, тымчасам як у Амэрыцы, скажам, за паўтара яйкі дастанеш дзесяць скрыначак. Апрача гэтага, у варожасьці да польскага рэжыму зь ягоным тэрорам выразна выяўлялася нацыянальная сьведамасьць беларускіх сялянаў.

Што да камасацыі, дык тут таксама камуністыя ня мелі ніякага голасу, бо, калі-б камасацыя праводзілася згодна з правам, дык сяляне ня толькі ня мелі-б нічога супраць, але дзякавалі-б за гэта. Аднак, заміж, пабольшаньня надзелаў зямлі, камасавалі толькі тыя мізэрныя шматкі, што сяляне мелі да камасацыі, дый то пры гэтым часта вырэзвалі кавалкі абшарнікам з гэтак званых сэрвітутаў, якімі раней карысталіся сяляне.

Гэта вось і была прычына супраціву сялянаў камасацыі.

«Нацыянальна-вызвольная барацьба працоўных Заходняе Беларусі, узначаленая КПЗБ, ня спынялася ні на адну хвіліну з моманту акупацыі Заходняе Беларусі і аж да моманту яе вызваленьня», кажа Прытыцкі («Ніва» 19. 10. 58).

Тут Прытыцкі выказаў праўду, бо акупацыя Заходняе Беларусі пачалася ў 1919 годзе, а правакатараў Масква пачала засылаць на Зах. Беларусь у канцы 1923 году. Да таго часу беларускі народ Зах. Беларусі меў 514 пачаткавых школаў, 7 гімназіяў, 2 настаўніцкія сэмінарыі, 14 прадстаўнікоў у польскім сойме й сэнаце. Ізь зьяўленьнем маскоўскіх агентаў бадай усё гэта, здабытае сваймі нацыянальнымі сіламі, было страчанае. «Асабліва разгорнутая й войстрая была гэтая барацьба ў 1926-1927 гадох, калі кампартыі ўдалося стварыць легальную арганізацыю — «Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду», піша Прытыцкі (тамжа).

Нельга знайсьці ніводнае дзялянкі дзейнасьці беларускага народу ў змаганьні з польскім паўфашызмам, каб «прафэсіянальны рэвалюцыянер» Прытыцкі ня прыпісаў яе КПЗБ, камсамольцам, навет піянерам. У запраўднасьці-ж утварэньне БС-Р Грамады адбылося ў чырвені 1924 году, а сваю дзейнасьць разгарнула ў канцы 1925 г. З прыходам да ўлады Пілсудзкага ў травені 1926 г. Грамадзе быў дадзены дазвол на легальную дзейнасьць за тое, што беларускі пасольскі клюб галасаваў у сойме за пераварот, арганізаваны Пілсудзкім. Што-ж да дзейнасьці Грамады ў 1927 годзе, дык такое не магло быць, бо з 14 на 15 студзеня 1927 году грамадаўскія паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла й Валынец былі арыштаваныя, а Сабалеўскі ўцёк у Гданск. Паарыштоўвалі тады ўсіх і з галоўнае гасподы Грамады. Гэнае начы ў Зах Беларусі было арыштавана 3 854 асобы. З гэтага ўсяго ліку польская пракуратура аддала пад суд 56 асобаў, а польскі суд прызнаў вінаватымі за дзейнасьць у Грамадзе 37 асобаў.

Гэта агульна сьцьверджаны гістарычны факт, што дзейнасьць Грамады ў Зах. Беларусі з адначаснаю дзейнасьцяй і вялізарнаю папулярнасьцяй літаратурнае арганізацыі «Ўзвышша» ў Усходняй Беларусі гэтак напалохалі Маскву, што апошняя зьвярнулася да польскага ўраду з прапановаю, каб супольна зьліквідаваць небясьпеку што пагражала, з боку беларускага вызвольнага руху ў вабедзьвюх частках акупаванае Беларусі. На гэтую прапанову Польшча дала сваю згоду. Зь ведама Варшавы Масква пачала сьпешна высылаць у Зах. Беларусь сваіх правакатараў, што павялі падрыўную дзейнасьць у гурткох Грамады, асабліва ўздоўж польска-савецкай мяжы, падбухторваючы сяброў Грамады на збройныя напады на польскія пагранічныя пасты. Гэткім спосабам Масква памагла Польшчы займець прычыны да здушэньня росквіту Грамады, а сваіх янычараў тыпу Прытыцкага ўзнагародзіла цяпер у БССР цёплымі партыйнымі пасадамі,*) каб нішчыць далей усе праявы нацыянальна-вызвольнага імкненьня беларускага народу.

Сяньня ўвесь сьвет пераканаўся ў тым, што што ні камуністы, то брахун, што хлусьня — гэта дэвіз камунізму, што безь яе маскоўскі дэспатызм не прайснаваў-бы 40 год. І калі Прытыцкі ілжэ не падсяючы, у гэтым дзіва няма. Але чаму-ж Прытыцкі, пішучы сваё «Ў імя будучыні», не зайкнуўся пра змаганьне беларускага народу ў 1926 г. супраць польскіх намаганьняў увесьці ў праваслаўнай царкве новы стыль з мэтай далейшай палянізацыі. У гэтым супраціве камуністыя ніякага ўдзелу ня бралі, а акцыя польскага ўраду, як ведама, поўнасьцяй праvalілася. Дык хто-ж тут змагаўся? Ці можа Прытыцкі яшчэ дапіша пра гэта?

Далей Прытыцкі піша: «Неўзабаве пасьля разгрому Грамады была створаная таксама легальная арганізацыя Беларускі Работніцка-Сялянскі клюб «Змаганьне» («Ніва», 19. 10. 58).

Перш-наперш, клюб ня быў арганізацыяй. Два паслы сойму твораць клюб, адзін ня можа — ён завецца тады «дзікім». Клюб існуе датуль, пакуль няскончыцца пасольская кадэнцыя. Кадэнцыя скончылася — клюбы ня йснуюць. Клюб «Змаганьне» быў створаны не неўзабаве пасьля разгрому Грамады, як гэта піша Прытыцкі, а за 2 гады й 5 месяцаў пасьля разгрому. Да стварэньня-ж яго спрычыніўся акрэдытаваны ў Варшаве маскоўскі карэспандэнт Барскі з дапамогаю соймавага пасла ад камуністычнае партыі Польшчы Барскага-Варшаўскага. Стварыўся клюб яшчэ й таму, што Крынчык, які пераняў пасольскі мандат па Стагановічу, быў найвярнейшы служка Крамля. Прыйшоўшы ў сойм, Крынчык меў па сваім баку паслоў Валошына, Грэцкага, часткава Гаўрыліка. На загад Барскага, Крынчык у 12 большых местах Зах. Беларусі паадчыняў сакратарыяты пасольскага клюбу «Змаганьне», паклікаючы за клюбавых сакратароў сваіх верных паплечнікаў із Слонімшчыны й Косаўшчыны: Зіняка-Хмару, Асіповіча-Асіпчыка, Міська, Барысёнка й васьмёх іншых, якіх прозьвішчы цяжка ўжо сяньня прыпомніць. Усім гэтым тыпам выдаваліся з савецкага пасольства ў Варшаве вялізарныя грошы для праводжаньня камуністычнае агітацыі й пасольскіх мітынгаў. Найспрытнейшым з усіх сакратароў выявіўся С. Хмара. Будучы сакратаром клюбу ў Пінску, ён поўнасьцяй падпарадкаваў сабе малапісьменнага соймавага пасла Грэцкага, змушаючы яго блізу штонядзелі рабіць мітынгі й чытаць на іх камуністычныя прамовы, пісаныя Хмарам.

Прытыцкі цягне далей: «Працоўныя Зах. Беларусі пад кіраўніцтвам кампартыі з гордасьцяй адзначалі ўсе рэвалюцыйныя сьвяты».

Але-ж, камуністыя адзначалі сьвяты, але дзе? — у глушы пушчаў далёка ад вока людзкога разьвешваньнем там чырвоных плахтаў. А дэманстрацыі адбываліся хіба ў уяве Прытыцкага, які стараецца на свой камуністычны рахунак запісаць польскіх сацыялістых і першамайскія сьвяткаваньні.

Прытыцкі хваліцца далей: «Пасьпяхова ажыцьцяўляўся байкот выбараў (у 1935 годзе)» («Ніва», 26. 10. 58).

Але, быў час, калі частка беларускае інтэлігенцыі глядзела на БССР, як на сваю будучую незалежную дзяржаву. Аднак, 30-я гады паказалі на чорную каляніяльную рэчаіснасьць: тады якраз было зьліквідаванае «Ўзвышша», й іншыя нацыянальныя арганізацыі ды ўстановы, а крыху пасьля — былыя паслы Грамады й «Змаганьня». Сымпатыя ператварылася ў варожасьць, і ў байкоце выбараў 1935 году ў сойм і сэнат, камуністыя ніякага ўплыву ня мелі. Беларусы байкатавалі выбары дзеля таго, што, паводля новага выбарчага закону, Беларусы практычна ня мелі права складаць сваіх сьпісаў кандыдатаў. Гэта й толькі гэта змусіла беларускі народ выказаць сваю варожасьць да польскага бяспраўя.

---

*) Як даведваемся (гл. «Советская Белоруссия», 12. 1. 60), С. Прытыцкі выслужыўся на новае павышэньне»: на апошнім пленуме ЦК КПБ зь першага сакратара былога Маладэчнанскага абкому партыі яго зрабілі першым сакратаром сталічнага менскага абкому. — **Рэд.**

**А. -іч**

**(Заканчэньне ў наст. нумары)**

# Усё тое-ж пераліваньне з пустога ў парожняе

9 студзеня бягучага году Цэнтральны Камітэт КПСС выдаў чарговую пастанову «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах». Як гаворыць і сам назоў пастановы, пайменна тут справа йдзе ня так аб прапагандзе самога «камунізму», як аб самай звычайнай партыйнай прапагандзе, аб прапагандзе чынаў партыі й перадусім чынаў партыі Хрушчова й самога Хрушчова. Характар гэтае рапаганды вызначаны адным із палажаньняў пастановы, якое навет узята за мото да пастановы ў газэце «Літаратура й мастацтва». Тут гаворыцца пайменна: «Галоўная задача партыйнай прапаганды заключаецца ў тым, каб глыбока й усебакова растлумачваць ідэі марксізму-ленінізму, паказваць іх пасьпяховае ажыцьцяўленьне ў ходзе барацьбы партыі за перамогу сацыялізму й камунізму ў нашай краіне, вучыць выкарыстоўваць у практычнай дзейнасьці й творча разьвіваць тэарэтычнае багацьце, накопленае партыяй, узьнімаць працоўных на барацьбу за ажыцьцяўленьне палітыкі партыі, выхоўваць актыўных і стойкіх барацьбістоў за камунізм». А наагул-жа, як вынікае з кантэксту пастановы, галоўная ўвага зьвернута на падрыхтоўку савецкага грамадзтва для выкананьня сямігадовага пляну, на пера-адаленьне тае абыякавасьці й антыпартыйнай варожасьці, што апанавалі цяпер гэтым савецкім грамадзтвам.

У пастанове ёсьць таксама й некаторыя вартыя ўвагі асаблівасьці. Ведама, трэба лічыць пустэчай гэтыя спробы партыі «сфармаваць новага чалавека з камуністычнымі рысамі характару, камуністычнай маралі» й г. д. Найбольш адпаведнымі былі-б яе спробы й намаганьні «прывіць камуністычныя адносіны да працы й сацыялістычнай, праўдзівей, партыйнай уласнасьці», што й адлюстроўваецца ў партыйным наказе, каб «камуністычная мараль» савецкага грамадзтва выкоўвалася паслугоўваньнем прынцыпам **«хто не працуе — той ня**

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

**Праф. Др. Я. Станкевіч** 4)

# Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі

Запраўны, ніякага адзіноства крыві ані адзінага нацыянальнага караня ў Беларусаў із Расійцамі няма, бо Беларусы балцка-славянскага паходжаньня, а Расійцы — Фіны, адно із славянскім пакостам, мітам ёсьцека «усходня-славянская глеба», а гістарычны спадак у вабодвых народаў розны. З вынятка́м адзінак у пасьлейшыя хваравітыя пэрыяды, Беларусь да Расіі ніколі не цягнула. А што да «дабрыняў», дык падзелы былі ня Польшчы, а беларуска-польскай Рэчыпаспалітай, скасаваньне прыгону ў Расіі сталася 70 год прасьля таго, як у Беларусі было пастаноўлена зволніць сялян ад прыгону (у 1793 г. беларуская дэлегацыя на чале з Т. Касьцюшкам заявіла францускаму рэволюцыйнаму ўраду праз пастанову ў Беларусі зволніць сялян ад прыгону). Што да Жыдоў а езуітаў, дык могуць яны адным падабацца, другім не, але былі яны ў усёй заходняй Эўропе, дык прыродна, што былі і ў Беларусі, каторая складае часьць Заходняе Эўропы. Беларускае народнае інтэлігенцыі найбольш зьнішчыла Расія, захапіўшы Беларусь. Сыстэма батрацтва была рэзультатам несправядлівай земляной рэформы, праведзенай Расіяй, пачынаючы з 1861 г. Прыгон дыкжэ найцяжшы быў у Расіі.

«Западно-руссам» «Галоўным хундамэнтам адзіноства Беларусі з Расіяй было праваслаўе... Вось чаму ўся гістарычная аргумэнтацыя Каяловічава перасыпана фактамі ды даведкамі зь беларускае царкоўнае гісторыі». «Але й тут — добра кажа аўтар — «западно-руссизму» не пашанцавала, бо ў Беларусі, як ведама, апрача праваслаўя, здаўна было пашырана каталіцтва, ня кажучы ўжо аб вуніі, што існавала з канца XVI стг. да сярэдзіны XIX стг. і ў пэўным разуменьню была своеасаблівай «беларускай мужыцкай верай». Праўда «западно-руссизм» з надворнага боку лёгка разьвязаваў гэтую рэлігійную супярэчнасьць:... ён проста не ўважаў Беларусаў-каталікоў за запраўдных Беларусаў і аддаваў іх Польшчы. Але гэта была вялікая нацяжка, яна занадта біла ў вочы кажнаму неасьлепленаму праваслаўным патрыятызмам (запраўды-фанатызмам — Я. С.)» (144).

Чым далей, тым болей ягоны (Каяловічаў) «западно-руссизм» набіраўся — «истинно-руских» рысаў і станавіўся ў цэнтру агульна-расійскае рэакцыі. Як прафэсар Пецярбурскай Духоўнай Акадэміі, у «Словянском Обществе», у этнаграфічным аддзеле «Геаграфіческого Общества», у Камісіі арганізацыі народных школаў у Беларусі, — усюды ён «ратует за благо Западной России» — у справы яе «вбивает русский гвоздь». Гэтай-жа мэце ён служыць у супрацы із Саблерам, Пабеданосцавам, Карнілавам і Суворынам — тагачаснымі кіраўнікамі расійскае рэакцыі. Навокал яго ў гэтыя гады ствараецца цэлая група бліжшых прыхільнікаў, ягоных собскіх гадунцоў, — прафэсароў Скаблановіча, Завітневіча, Філевіча, Цьвятаева ды іншых прадстаўнікоў «западно-росской» школы» (150).

## Характарыстыка становішча Беларусі ў 80—90 гг. (Полымя 1929 г. май, б. 115—138).

Тут аўтар галоўна разглядае, чаму й як Беларусь у 80-х гадох дзевятнаццатага стагодзьдзя сталася гаспадарскай калёніяй Расіі: «...расійскія калянізацыйныя імкненьні ў кірунку Беларусі — кажа аўтар — ясна вызначаліся ня толькі ў практычным жыцьцю, ня толькі ў факце штодзеннага захапленьня расійскім капіталам беларускага эканамічнага жыцьця, але і ў літаратуры. Гэтак, прыкладам, вядомы расійскі соцыялёг С. Южакоў у 1886 г. выразьліва прапагандаваў калянізацыйны паход на Беларусь, зьясьняючы яго патрэбу інтарэсамі гаспадаркі расійскага гаспадарства. (Калянізацыя Палесься, — кажа ён, — разумеючы пад Палесьсем наагул усю беларускую этнаграфічную тэрыторыю, — належа да ліку найважнейшых заданьняў нашае нутраное эканамічнае палітыкі» (117).

«Калянізацыя Беларусі расійскім капіталам вызначалася пры канцу XIX стг. ў найразнастайнейшых формах: у форме гандлёвых адносінаў мясцовых фірмаў із Масквой, у форме адкрыцьця ў Беларусі адзьдзелаў маскоўскіх і пецярбурскіх банкаў і банкірскіх кантораў, у вялікім развою чыгунак, у вялікім гаспадарствавым будаўніцтве — ня толькі чыста эканамічным, але й стратэгічным, у ўсё большым наплыве на Беларусь расійскага войска й урадніцтва і, наапошку, у надзвычайна борздым росьце расійскае школы і асьветы наагул» (118).

Побач із расійскім капіталам, у 90-х гадох ідзець на Беларусь польскі прамыслова-ралейны капітал і паляпшае дворную гаспадарку апалячаных паноў (126 і наст.). Разам із польскім капіталам прыходзе польская палянізацыйная дзейнасьць (б. 131 і наст.).

Разам із гэтым «і ў (польскім) патрыятычна-сацыялістычным кірунку Беларусь рабілася аб'ектам агульна-польскай нацыяналістычнай экспансіі. Навачасная капіталістычная Польшча варочалася на Беларусь задзіночаным фронтам — ад магната да пэпэсоўца».

У разьдзеле 8-ым свае кнігі аўтар разглядае «Западно-руссизм пры канцу XIX в.» «Барацьба за Беларусь — кажа аўтар — паміж расійскім капіталам і польскім панам, адноўленая па вялікім перапынку на пачатку асьмідзясятых год, павінна была раскрыць перад «западно-руссизмам» найражавейшыя пэрспэктывы... Радасны настрой падмацоваваўся цэлым сьцягам фактаў... быў закладзены «Крестьянский поземельный банк» (1882 г.), было прынята палажэньне пра сынадальна-царкоўна-прыходзкія школы (1884 г.)... у Вільні было адноўлена гэнэрал-губарнатарства, на чале з «вполне русским» ген. Троцкім; на гэнэрал-губарнатарскім пляцу ў тэйжа Вільні быў ізь вялікай урачыстасьцяй пастаўлены помнік Мураўёву, закладзены й «Мураўёўскі музэй» — «фабрыка отечественных патриотов», — як сказаў адзін із сучасьнікаў, і г. д... На Беларусі, здавалася, варочаўся знаёмы мураўёўскі рэжым, усюды узноў «пайшла мода на Мураёва» (167—68).

«Аднак надзеям западно-руссов» і на гэты раз ня суджана было спраўдзіцца» (168). Аўтар адлі ў цэлым разьдзеле разглядае прычыны гэтага.

Як «западно-руссы», так і расійская адміністрацыя ўважалі, што абрусіць Беларусь можна толькі прапусьціўшы новае пакаленьне цераз расійскія пачатныя школы, вучыцельскія сэмінары і вучыцельскія інстытуты (268). І праўда «маса, канчаючы стары вучыцельскі сэмінар, выходзіла адтуль патэнтаванымі русыфікатарамі»; але былі адзінкі сярод «народнае

# Усё тое-ж пераліваньне...

(Заканчэньне зь 2-ай бач.)

**есьць».** У пастанове сьцьвярджаецца, што дасюль «партыйная прапаганда» мела слабыя вынікі ды яна й праводзілася фармальна, абыякава, абы з рук здаць, г. зн., каб толькі выканаць накінуты плян, адрабіць накінутае заданьне. А таму як прапагандыстыя й іх лекцыі, так і аўдыторыя заўсёды былі нуднымі й пустымі. Даклады будаваліся толькі на адных цытатах, не прыстасоўваліся да аўдыторыі, а ў многіх выпадках навет зводзіліся да пародыяў і насьмешак. Тут можна напомніць, як на зьезьдзе камсамолу БССР высьмейваліся факты чытаньня перад аўдыторыяй дзяўчат лекцыяў на тэму змаганьня з алькагалізмам, ці, як падавалася ў беларускай савецкай прэсе, з тэмаў аб чыне й дзеяньнях партыі рабіліся лекцыі-пародыі аб каханьні, прытарнованага да «каханьня» між грамадзтвам і партыяй. Тут можна напомніць таксама й тыя факты, калі прапагандыстыя й агітатары заганяліся аўдыторыяй у казіны рог, якія, будучы ня здольнымі адказваць на пытаньні, пагражалі прыцягненьнем да адказнасьці, або вырашалі ход спрэчак аднымі толькі цьверджаньнямі, што «так думае, ці так жадае партыя».

У пастанове гаворыцца таксама, што ад сяньня партыйнай прапагандай павінны быць ахоплены ўсе слаі савецкага грамадзтва, пачынаючы ад калгасьнікаў, працоўных і моладзі й канчаючы вышэйшымі партыйцамі й акадэмікамі. Палітычнае й ідэйнае выхаваньне павінна быць дыфэрэнцыяванае, г. зн. прытарнаванае да кажнае асобнае групы з узлягядам на інтэлектуальную розьніцу. Прыкладам, сярод калгасьнікаў і працоўных партыйная прапаганда павінна весьціся ў кірунку выхаваньня «сьвядомых, камуністычных адносінаў да працы», разьвіцьця «калектывізму» й г. д. Сярод моладзі, на якую зьвяртаецца асабліва ўвага, ідэйна-выхаваўчая работа павінна ськіроўвацца на прышчапленьне «камуністычнай маралі», на пераадаленьне «пражаваў буржуазнай ідэялёгіі, апалітычнасьці», на прышчапленьне «савецкага патрыятызму» й «гонару за сваю магутную Радзіму» ды на прышчапленьне нянавісьці да Захаду. Навуковыя сілы, асабліва працаўнікі грамадзкіх навук, таксама павіны ўзгадоўвацца ў «савецкім патрыятызьме», нянавісьці да заходніх плыняў, адданасьці партыі.

У сувязі з гэтай акцыяй глябальнага палітычнага й партыйнага ўзгадаваньня савецкага грамадзтва прадбачваецца нябывалае выданьне масава-прапагандовай літаратуры, «палітычнай» літаратуры зь гісторыі бальшавіцкай рэвалюцыі й другой сьветавай вайны, зь «гераічнай» гісторыі камуністычнай партыі, прадбачваецца прыцягненьне да гэтые акцыі масавых кадраў добра вышкаленых прапагандыстых і агітатараў, навуковую й партыйную эліту, прэсу, радыё, тэлебачаньне, кіно, літаратуру, тэатар і г. д. Трэба ўявіць наступленьне гэтае бясконцае нудоты! Прадбачваецца таксама павышэньне партыйнага вышкаленьня як у вышэйшых навучальных установах, так і ў сярэдніх ды сярэдня-тэхнічных школах.

У нацыянальным пытаньні, хоць пастанова й сьветчыць, што трэба зыходзіць у гэтай прапаганьдзе з нацыянальных асаблівасьцяў кажнага народу, прадбачваецца яшчэ больш узмоцненае змаганьне «з праявамі буржуазнага нацыяналізму, тэндэнцыяй да ідэялізацыі й затушоўваньня сацыяльных супярэчнасьцяў мінулага, спробай штучнага адраджэньня нацыянальных традыцыяў» і г. д. Тут партыя прапануе ўзмоцненае ўзгадаваньне народаў СССР «у духу савецкага патрыятызму й **нацыянальнага гонару»,у** духу «гордасьці» за мінулае й сучаснае «свае магутнае Радзімы», у духу няпрымірнасьці да «рэакцыйнай ідэялёгіі касмапалітызму». Вось тут і вузел і разьвязка! Ці гэта не зварот да самага рэакцыйнага патрыятызму расейскага народу апошніх сталінскіх часоў?

Ведама, прадбачанае ўзмоцненае змаганьне з праявамі «буржуазнага нацыяналізму» павінна выключаць таксама й узгадаваньне ў духу «нацыянальнага гонару», бо ведамае нам першае змаганьне не пакідае ніякага месца для другога.

«Савецкі патрыятызм» тксама ня можа закрыцца **нацыянальнай** апранахай, і ня толькі таму, што яшчэ адсутнічае сваеасаблівая савецкая нацыя, але й таму, што ён выключае ўтварэньне штосьці падобнага — выключае «рэакцыйную ідэялёгію касмапалітызму». Ідэя касмапалітызму якраз і заключаецца ў стварэньні сьветавай нацыі з агульнай сьветавай культурай. Значыцца, застаецца адна магчымасьць узгадаваньня савецкага грамадзтва ў духу савецка-рарасейскага патрыятызму, да чаго паймена прывяло й сталінскае змаганьне з «рэакцыйнай ідэялёгіяй касмапалітызму», сталінскі «савецкі патрыятызм».

Адным словам, наступіць яшчэ нябывалы «ідэйны кашмар», кашмар вялізнага кірмашовага відовішча, ад якога вызваленьня трэба будзе шукаць або на месяцы, або ў зямлі, сказаўшы проста. У нацыянальным жыцьці зноў запануюць іваны грозныя й пётры першыя, «самая перадавая й найкультурнейшая» культура расейскага народу, «всеобщий русский язык» і цывілізацыя расейскай чарнасоценшчыны.

**П. Залужны**

# Міжнародны канцэрт у Лёндане

24-га студзеня ў Лёндане пад лёзунгам «Уцекачы для ўцекачоў», адбыўся вялікі міжнародны канцэрт народных песьняў і танцаў. Канцэрт быў зарганізаваны Каардынацыйным Камітэтам дабрадзейных арганізацыяў уцекачоў у Англіі. У праграму канцэрту былі ўлучаныя беларускія, эстонскія, латыскія, літоўскія, польскія, украінскія, й югаслаўскія песьні й танцы.

Вялізарная заля Альбэрт Гол, якая зьмяшчае 6 тысяч асобаў была поўнай. У залі было шмат Ангельцаў, але пераважную бальшыню складалі чужынцы. Сярод прысутных была немалая колькасьць Беларусаў зь Лёндану й ваколіцаў і не адно беларускае сэрца моцна білася чакаючы выступу сваіх артыстых.

Гукі аргану абвесьцілі пачатак канцэрту. У каралеўскую лёжу ўвайшла Яе Каралеўская Высокасьць княгіня Кэнту ў суправаджэньні свае сьвіты.

Зазьзялі пражэктары. Сцэна ўпрыгожаная нацыянальнымі сьцягамі, сярод якіх сваё месца заняў беларускі белчырвона-белы сьцяг.

Перад слухачамі стройнай нізкай прайшоў шэраг нацыянальных мастацкіх групаў.

Першым нумарам у праграме быў выступ украінскага мужчынскага хору.

Сваім добрым выкананьнем, бадзёрасьцяй і прыгожай вопраткай яны адразу надалі добры тэмп канцэрту. За імі выступалі Латышы й Эстонцы. Чацьвертым нумарам праграмы — Беларусы.

Пад гучныя воплескі ў прыгожай нацыянальнай вопратцы выйшлі на сцэну нашая ведамая салістка Барбара Вербіч і акардыяністка Галіна Ганчарэнка. За мастацкае выкананьне трох беларускіх песьняў: «Ой, арол ты, арол», «Чаму-ж мне ня пець» і «Цераз сад вінаград» сьпявачка сп. Вербіч была заслужана ўзнагароджаная гучнымі воплескамі. У іншым месцы праграмы нашыя артысткі зь вялікім посьпехам выканалі два дуэты «Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі» і «Ці ўсе лугі пакошаны».

Трэба адзначыць, што сярод такіх вялікіх разнастайных групаў нашыя выканальніцы беларускае песьні ня толькі ня згубіліся, а былі ў цэнтры ўвагі й годна рэпрэзэнтавалі Беларусаў.

Іхным посьпехам мы ганарымся й складаем ад імя Беларусаў Вялікабрытаніі вялікую падзяку.

Такая нагода рэпрэзэнтацыі для нас Беларусаў ня часта здараецца.

Наагул уся праграма канцэрту была на высокім узроўні й хутчэй нагадвала фэстываль народнай песьні й танцу.

Пасьля канцэрту, кіраўнікі вялікіх мастацкіх групаў і абедзьве нашыя сьпявачкі былі прынятыя Яе Каралеўскай Высокасьцяй княгіняй Кэнту, дзе яна асабіста кажнаму складала падзяку.

У часе прыняцьця было паведамлена, што прыбытак ад канцэрту, на дапамогу ўцекачом, быў большым, чымся спадзяваліся арганізатары.

* * *

24-га студзеня ў Царкве Бел. Марыянскага Дому адбылася ўрачыстая Багаслужба, якую адправіў а. д-р Часлаў у саслужэньні а. Аляксандра

А. д-р Часлаў сказаў цікавае прынагоднае казаньне. Багаслужбу суправаджаў прыгожы хор пад кіраўніцтвам дырыгента-Ангелькі.

Невялікая, утульная Царква была перапоўненая вернікамі Беларусамі й Ангельцамі.

На Багаслужбе былі прысутныя й нашы дарагія госьці Барбара Вербіч і Га-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Вынікі адной экспэдыцыі

Адна з экспэдыцыяў Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навук БССР у 1959 г. пабывала ў Вільні. У Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР, рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі Навук Літоўскай ССР, гісторыка-этнаграфічным музэі і ў іншых мясцох супрацоўнікі інстытуту пад кіраўніцтвам доктара мастацтвазнаўства М. Кацара выявілі матар'ялы пра жыцьцё й дзейнасьць беларускіх мастакоў XVIII і XIX стагодзьдзяў.

Як вядома, Вільня ў XIX ст. была адміністрацыйным, навуковым і культурным цэнтрам г. зв. Паўночна-Заходняга Краю былой Расейскай імпэрыі. Да 1831 году тут існаваў ўнівэрсытэт, у якім была катэдра жывапісу, скульптуры й архітэктуры, арганізаваная паводля ўзору Пецярбурскай Акадэміі мастацтваў.

Працавала ў Вільні й мастацкая школа, якая рыхтавала мастакоў-выкладчыкаў для гімназіяў і іншых навучальных установаў. Як сьветчаць архіўныя дакуманты, кажны выпускнік школы павінен быў пасьля вучобы адрабіць у навучальных установах пяць гадоў. На ўнівэрсытэцкі кошт маладыя мастакі пасылаліся для ўдасканаленьня майстэрства за граніцу або ў Пецярбург. Жывапіс у віленскай школе выкладаў вучань вядомага італьянскага мастака Бачыарэлі, прафэсар Ян Рустэм, скульптуру — Казімір Ельскі, архітэктуру — Кароль Падчашынскі, графіку — Тэафіль Кіслінг (вучань Андрыолі).

Школа Рустэма выхавала нямала цікавых маляроў, скульптараў і графікаў. Сярод іх — ад'юнкт (дацэнт) Іван Дамель, Валянтын Ванькові, Рафал Сьлізень і інш.

Іван Дамель за ўдзел у масонскіх лёжах (гэтыя лёжы, як вядома, спрыялі падрыхтоўцы выступленьня дэкабрыстых. — Л. Д.) быў высланы царскім урадам на два гады ў Сібір. Афіцыйным матывам для гэтага паслужыла сфабрыкаваная палітычная справа, нібыта Дамель разам з мастаком Цэзікам падрабляў грошы. Пасьля павароту зь Сібіру Дамель да канца жыцьця працаваў у Менску. Тут ён стварыў цікавыя кампазыцыі на гістарычныя й біблійныя тэмы, мноства партрэтаў сваіх знаёмых. Мастак, паводля сьветчаньняў яго сучасьнікаў меў выняткова талент і шчырае сэрца. Ён шмат дапамагаў бедным. Захаваліся некаторыя ягоны творы. Цяпер яны знаходзяцца ў Віленскім дзяржаўным музэі.

Мянчанін Валянтын Ваньковіч таксама вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце. За вылучныя здольнасьці ён на кошт унівэрсытэту быў адпраўлены на чатыры гады для ўдасканаленьня майстэрства ў Пецярбург. Ён атрымліваў стыпэндыю, але яе было недастаткова для пражыцьця й набыцьця неабходных малярскіх матар'ялаў. З гэтых сяродкаў ён павінен быў дапамагаць і сваёй сям'і, якая жыла ў Сьляпянцы каля Менску.

Мастак часта недаядаў, жыў у майстэрні, бо на кватэру не ставла грошай. Аб гэтым сьветчаць ягоныя шматлікія лісты на йме рэктара Віленскага ўнівэрсытэту. Цяжкія ўмовы жыцьця падарвалі здароўе мастака. Ён памёр у веку 42 год. Шматлікія ягоныя партрэты адрозьніваюцца прыгожым калярытам і выдатным малюнкам.

Жыхар Барысава Рафал Сьлізень вучыўся на філязофскім факультэце, але наведваў і клясы скульптуры й малярства. Ён пакінуў пасьля сябе выдатныя мэдальёны й сярод іх барэльефы Томаша Зана, арганізатара тайнага таварыства філярэтаў у Віленскім унівэрсытэце. Сам Сьлізень быў таксама ўдзельнікам гэтага таварыства.

Сябрамі тайных таварыстваў былі й іншыя беларускія мастакі. Сярод іх — пэйзажысты Міхась Кулеш, які нарадзіўся ў Горадзенскай губэрні.

Асабліва цікавыя дакуманты аб сувязях перадавых людзей таго часу (у тым ліку й мастакоў) зь дэкабрыстамі. У 1826 г. пасьля паразы сьнежаньскага выступу ў Вільню прыяжджаў паручык Бястужаў-Румін, якога расшукзала паліцыя. Ён меў сустрэчу з мастаком Іванам Траяноўскім, блізкім да ўсіх беларускіх мастакоў. Шматлікія партрэты Міхала Ромэра, які адбываў заключэньне ў справе дэкабрыстых ў Петрапаўлаўскай цьвярдыні, зроблены беларускімі мастакамі.

Значную цікавасьць становяць матар'ялы, зьвязаныя з закрыцьцём скульптурнае клясы пры Віленскім унівэрсытэце ў 1826 г. за актыўны ўдзел навучэнцаў і сымпатыяў іхнага пэдагога К. Ельскага да тайных таварыстваў.

Каштоўныя матар'ялы пра мастакоў Альхімовіча й Дмахоўскага — удзельнікаў паўстаньня 1863 г.

Дзейнасьць вядомых беларускіх мастакоў Ф. Рушчыца й В. Сільвановіча таксама зьвязана зь Вільняй. Ф. Рушчыц у 30-я гады нашага стагодзьдзя быў прафэсарам жывапісу ў Віленскім унівэрсытэце, праводзіў вялікую работу над захаваньнем помнікаў старажытнай культуры беларускага народу.

Вывучэньне беларускай мастацкай культуры мінулых стагодзьдзяў зьвязана із шматлікімі цяжкасьцямі. Царскі ўрад наўмысьля замоўчваў перадавых беларускіх мастакоў, бо ўсе яны былі «крамольнымі» (пар. савецкі тэрмін «вораг народу» ў дачыненьні перадавых беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў культуры, зьліквідаваных бальшавікамі — Рэд. «Б-ны»). Зьвесткі пра гэтых мастакоў вельмі няпэўныя й раськіданыя. Неабходна працягваць работу над адшуканьнем новых зьвестак аб іх.

**Л. Дробаў**

«Літаратура і мастацтва», 6. 1. 1960.

---

сялянскае інтэлігенцыі ... якія па сэмінару ня чураліся «мужыцкіх» інтарэсаў. Сярод іх «знайшла сабе прыхільнікаў ідэя нацыянальна-культурнага й палітычнага адраджэньня Беларусі». Аўтар паказуе як гэта ставалася (269—274). Дзеля ілюстрацыі, як нацыянальна ўсьведамляліся гадунцы вучыцельскіх інстытутаў, ён прыводзе таксама цытаты з успамінаў Н. Бантыша «Старая Вильна» 1884—1906, што былі ў рукапісе ў рэдакцыі «Полымя». Бантыш, між іншага, пісаў: «У Віленскім інстытуце ўсе гадунцы ягоныя мелі магчымасьць карыстацца архівамі ў вялікай публічнай біблятэцы, а таксама ў музэю. Бучыцельскі пэрсанал інстытуту ўходзіў у «Комиссию по разбору древних актов». Гадунцы ягоныя таксама прымалі ўдзел у дасьледаваньню й аглядзе гістарычных дакумэнтаў. Такім парадкам, ім, Беларусам, зусім ясным рабілася законнае гістарычнае права Беларусі і на Смаленск, і на Вяліж, і на Невель, і на Сураж, і на Аўгустоў ... Яны бачылі, што Пранціш Скарына — першы друкар беларускі й славянскі ... распачаў друкарскую справу ў Вільні й Полацку. Вось адкуль пайшоў культурны друк. І вось акт за актам, ліст за лістам слухачы інстытуту бачаць, што беларуская мова была абавязкавай у старым «літоўскім» гаспадарстве ...» (272). Гэта была адна прычына неўжыцьцяўленьня спадзеваў «западно-руссов».

Другая прычына ляжала ў сфэры іхных дачыненьняў да Расіі. Як ні дзерліся «западно-руссы» із сваім расійскім шавінізмам, Расійцы іх ня прызнавалі за запраўдных Расійцаў і ім ня верылі. Расія патрабавала мноства ўраднікаў, і «западно-руссы» спадзяваліся, што яны пазаймаюць першыя месцы ў Беларусі, але з гэтым «Пецярбург не згаджаўся». «Як пры Мураўёву, так і цяпер, кіраўнікі расійскае палітыкі не маглі паручыць долю краю «западно-руссам», каторыя, хоць і былі шчырымі служкамі вялікагаспадарстваваe расійскае нацыі, але самі ... да гэтае нацыі не належалі. Пры новай «модзе на Мураўёва» стары пагляд на «западно-руссов» заставаўся ў гэтым сэньсе да сьмешнага аднолькавым. Як просьле паўстаньня, так і цяпер пад канец веку «западно-руссы» былі ў вачох Пецярбургу падазроным элемэнтам» (175).

Аўтар прыводзе праграму абрусеньня Беларусі, каторую ў 1887 г. ясна выказаў у «Новом времени» ідэялёг расійскіх русыфікатараў Б. Салаўёў. Я прывяду за аўтарам некаторыя месцы з гэнае праграмы. Салаўёў пісаў: «Ад аднаго павялічэньня праваслаўных цэркваў праваслаўе ня ўзмоцнілася, дзеля гэтага ня зроблена было нічога. Пачаць із таго, што праваслаўе ня можа праводзіцца ў жыцьцё сьвятарамі зь мясцовых урадзімцаў ...

«Застаецца пагаварыць пра народныя школы. Школаў гэтых у заходніх губэрнях больш, чымся ў расійскіх. Апрача таго, ёсьць ладны лік вучыцельскіх сэмінароў. Здавалася-б дзеля гэтага, што школьная справа магла-б памагаць дасьпехам абрусеньня, але й тут мы далёкія ад пастаўленай мэты. Прыслухайцеся да мясцовай мовы, якой размаўляюць гадунцы мясцовых школаў і навет гімназіі, і вы будзеце зьдзіўлены асаблівасьцю націскаў — злучэньням словаў і тэрміналёгіі ... І зразумела чаму. Як у народных школах, так і ў гімназіях вучыцялі й вучыцелькі — мясцовыя ўрадзімцы. Тут часта можна сустрэць ня толькі вучаньніка народнае школы, але й гімназіі, які піша «трапка», замест «тряпка» і г. д., не па апісцы або абмылцы, а таму, што так кажуць і пішуць усе туташнія. Скончыўшы народную школу, вучаньнікі, як і ўперад, завуць Тройцын дзень — зялёным сьвятам, Усьпеньне — Першай Прычыстай і да г. п. ..

«Але шмат чаго яшчэ ня позна паправіць. Пажадана, каб асновы абрусеньня былі праведзеныя бяз жадных адхінаў. **Трэба, каб і сярэднія ўрады замяшчаліся асобамі чыста расійскага паходжаньня** праваслаўнае веры ... Пажадана, каб прыяжджомыя расійскія ўраднікі не зрасталіся зь мясцовасьцю, не абарачаліся ў паноў, працятых вылучна мясцовымі інтарэсамі. Служба кажнага Расійца ў заходніх губэрнях павінна быць абмежана сяма, асьма, найбольш дзесяцьма гадамі. **Сьвятары, дзякі, вучыцялі гімназіяў ды іншых установаў павінны быць прызначаныя з урадзімцаў нутраных губэрняў, чыста расійскага паходжаньня.** Стыль цэркваў павінен быць расійскі» (276—277).

«Урадовы Пецярбург — кажа аўтар — зусім згаджаўся із салаўёўскай пастановаю справы: мясцовым урадзімцам было забаронена займаць пасады (найперш у васьвеце) вышэй 5-ае клясы, а па службе праваслаўнае веры, — вышэй сьвятара. Было прынята за правіла — усіх канчаючых духоўныя сэмінары ў Беларусі, пасылаць на прыходы да цэнтральных расійскіх губэрняў. Стары Каяловіч расказаваў ў «Епархіяльных ведамасьцях» пра гэта цікавыя рэчы: «Цяпер — пісаў ён (1881—82 гг.) — у Заходняй Расіі ўсе архіпастыры з нутраных губэрняў. Прызначэньне ў Заходнюю Расію кажнага з гэтых архірэяў выклікае просьбы пра службу з боку іхных родных, родзічаў. Няма жыцьця ад гэтых просьбаў. Некаторыя выклікаюць сюды сваіх родзічаў подля прынцыпу, каб больш дасьпешна русыфікаваць гэты край. Добрыя людзі сярод іх лучаюць адзінкамі. Бальшыня — «искатели счастья». Наадварот, «западно-руссы», што канчаюць духоўныя акадэміі, бадзяюцца па ўсёй Расіі. Я асабіста мог-бы скласьці вельмі ладнае сьпісаньне маіх студэнтаў, «западноруссов», якім я памагаў гатавацца да служэньня на бацькаўшчыне і якія раськідаліся па такіх мясцох, дзе не маглі знайсьці магчымасьці ўжыць сваю «западно-русскую» веду — у Ніжні Ноўгарад, Астрахань, Кішанёў» (277—78).

Менаваная праграма была прынятая ўрадам (279).

Наапошку, з боку расійскага быў высунены плян падзяліцца Беларусяй із Палякамі і, такім парадкам, зь імі пагадзіцца, бо польскія (запраўды спалячаныя) паны ў Беларусі былі расійскаму дваранству мільшыя, чымся Беларусы, у тым ліку і «западно-руссы» (281—284).

У тым-жа часе — дзеля апраўданьня нішчэньня Беларусаў — у расійскай літаратуры была пашыраная хвальшывая характарыстыка Беларусаў, як народу недалужнага, кволага. Адылі, пасьлей, Южакоў, галоўны аўтар пляну зьбліжэньня з Палякамі беларускім коштам, мусіў прызнаць (у 1907 г.), што «Ранейшае прадстаўленьне пра Беларусаў, як пра плямя нізкога росту й слабое аказалася няверным. У бальшыні яны фізычна складзеныя вельмі добра, маюць рост вышэй сярэдняга, жыцьцявы індэкс перавышае 50 прац. і сьветча пра фізычную крапчыню» (Большая Энциклопедия, выд. 1908 г., т. IV — рэдактар С. Южаков).

**Далей будзе**

# Зь беларускага жыцьця

## Ялінка ў Мэльбурне

17. 1. г. г. ў прыцаркоўнай залі Мэльбурнскай парахвіі БАПЦ адбылося сьвята Ялінкі для дзяцей вернікаў. Дзень выдаўся надзвычайна гарачы. Тэмпэратура перавышала 40 град. гарачыні. Пасьля Абедні дзеці із сваімі бацькамі сабраліся каля Ялінкі, куды неўзабаве зь мехам падарункаў прыйшоў і беларускі Дзед Мароз. Прывітаўшыся з прысутнымі і пагутарыўшы з дзецьмі аб Бацькаўшчыне, Царкве і Школе, Дзед жартаўлівымі прыказкамі адчыніў традыцыйнае дзіцячае сьвята.

Юрка й Уршуля прасьпявалі калядку пад ігру на піяніне малой Уршулі, а пад музыку пав. сп-ні Э. Катрэнка, Дзед Мароз вадзіў дзіцячыя карагоды.

Павесяліліся дзеці, прытаміўся і Дзед. Селі адпачнуць. Прытомленых, але вясёлых дзяцей сп-ня О. К. частавала марожаным і кока-коляй, а Дзед тым часам узяўся раздаваць прынесеныя падарункі-неспадзеўкі, дадаючы кажнаму мяшочак з рознымі арэшкамі й цукеркамі.

Сквапліва разглядаліся падарункі, выклікаючы радасьць і зацікаўленьне.

Не абмінуў Дзед неспадзеўкамі й некаторых дарослых, чаго яны зусім не спадзяваліся.

Вясёла й радасна было ў сваёй беларускай грамадзе, бо й неба зрабіла прысутным свой найбольшы падарунак, пасылаючы ў гэты сьпякотны дзень асьвяжаючы прыроду дожджык. Уздыхнулася лёгка й прыемна!

Шчырая падзяка ахвярадаўцам-парахвіянам за наладжаную дзецям радасьць, і асаблівая падзяка сп-ні В. Кукель і Дзеду Марозу — сп. В. Ціхановічу, як актыўным і ахвярным удзельнікам сьвята Ялінкі.

**Ц. В.**

# ЗВАРОТ

**КАМІТЭТУ НАБЫЦЬЦЯ ПОМНІКА НА МАГІЛУ СЬВ. ПАМ. Д-ра АЛЯКСАНДРЫ ОРСЫ**

2-га лістапада 1959 г. у Нью Ёрку памёр былы настаўнік Наваградзкай Беларускай Гімназіі, а пазьней дырэктар і настаўнік Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе ў Нямеччыне — сьв. пам. Д-р Аляксандар Орса.

Сярод шматлікіх ягоных вучняў-гадунцоў абедзьвюх гімназіяў, бацькоў гэтых вучняў, а таксама сяброў-настаўнікаў зьявілася думка правядзеньня збору грошай на набыцьцё і ўстанаўленьне помніка на ягонай магіле. Думка гэтая ўзьнікла адначасна ў некалькі месцах пражываньня ягоных былых вучняў.

Пасьля перапіскі й скаардынаваньня дзейнасьці, быў створаны Камітэт Набыцьця Помніка зь сялібай у Нью Ёрку, які, у складзе ніжэйпадпісаных, гэтым і зьвяртаецца да былых вучняў, іх бацькоў і сяброў сьв. пам. Д-ра А. Орсы з заклікам грашова падтрымаць гэтую справу.

Сьв. пам. Д-р Орса пахаваны на беларускім могільніку ў Нью Бранcвіку. Помнік на ягонай магіле будзе знакам, што ягоныя рассыпаныя па ўсяму сьвету вучні, іх бацькі, а таксама сябры памёрлага занятыя штодзённымі жыцьцёвымі клопатамі, знайшлі час, каб супольна адзначыць сумны факт ягонае сьмерці, знайшлі грошы, каб пакласьці трывалы вянок на ягоную магілу. Ад колькасьці сабраных грошай будзе залежаць вялічыня й выгляд помніка, дык падбайма аб тое, каб помнік гэты дастойна рэпрэзэнтаваў нашыя лепшыя пачуцьці да таго, хто пад ім пахаваны.

Збор грошай ужо распачаты ў некалькі асяродках ЗША і пасоўваецца пасьпяхова.

У сваёй акцыі камітэт разлічвае перадусім на падтрымку былых вучняў Наваградзкай Беларускай Гімназіі, былых вучняў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе, якіх заўсёды лучыла пачуцьцё пашаны й прыязьні да свайго настаўніка, а сяньня лучыць і пачуцьцё жалю з прычыны ягонае сьмерці.

Камітэт будзе вітаць грашовую падтрымку з боку сяброў і прыяцеляў памёрлага і запэўнівае, што кажны дар будзе адпаведна адзначаны.

Чэкі й паштовыя пераказы просім перасылаць на адрас скарбніка камітэту:

**Michael Ragula, 385 Alabama Ave, Brooklyn 7, N. Y. USA.**

Аб ходзе збору камітэт будзе паведамляць у беларускай прэсе, у якой будзе падана й канчатковая справаздача пасьля выкананьня пастаўленага перад камітэтам заданьня.

**Сябры Камітэту: У. Набагез**
**В. Шчэцька**
**М. Рагуля**

З радыёвай хвалі «Свабода»

# Сумны даведнік

Усякія бываюць даведнікі — дакладныя і хвальшывыя і ня зусім дакладныя. Вось нам трапіў у рукі кароткі біяграфічны даведнік: «Пісьменьнікі Савецкай Беларусі» (Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва БССР, Менск, 1959). У гэтай кнізе пададзеныя біяграфіі, разам з фатаздымкамі, больш за 200 пісьменьнікаў: драматургаў, празаікаў, паэтаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў і перакладчыкаў.

На першы пагляд — паважна й салідна! Мы перагортваем кнігу. Бачым шмат маладых аўтараў. Сярод іх знаходзім і знаёмыя партрэты тых, якія былі некалі зганьбаваныя, як «ворагі народу» й высланыя на далёкую Поўнач.

У біяграфіях гэтых ахвяраў бальшавіцкага рэжыму ані слова не гаворыцца аб высланьні, турмах і рэгабілітацыі. Выглядае, як быццам пісьменьнікі працавалі ў нармальных умовах.

І толькі лічбы — даты сьмерці некаторых — выкрываюць нешта жудаснае, злачыннае. Чытаючы жыцьцяпісы, мы бачым — у 1937-ым годзе памерлі пісьменьнікі Міхась Чарот, Цішка Гартны, Уладыслаў Галубок, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Васіль Каваль, Ізі Харык, Анатоль Дзяркач, а ў 1938-ым Васіль Сташэўскі, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны, Міхась Багун і іншыя.

Малады чытач, які не памятае таго часу, можа сур'ёзна паставіць пытаньне: — Чаму ў гэтыя гады паміралі беларускія пісьменьнікі? Якая эпідэмія, які памор быў у Менску? Няўжо ў сталіцы Беларусі, дзе жылі й працавалі пісьменьнікі, была нейкая стыхійная катастрофа?

Савецкая прэса маўчыць. Але мы ведаем, якая была катастрофа!

Бальшавіцкі тэрор, арышты, турма, высланьне. Загінуў у той час лепшы цьвет беларускае інтэлігенцыі. Асабліва пацярпелі пісьменьнікі. Мала хто ўцалеў і вярнуўся з савецкіх канцлягераў на Бацькаўшчыну. У даведніку падаецца аб іх вельмі-ж куртатая біяграфія. Пералічваючы падрабязна выдадзеныя кнігі гэтых аўтараў да 1937-га году, далей раптоўна абцінаецца ляканічнай заўвагай аб тым, што ў пасьлязваенныя часы той ці гэты пісьменьнік друкуецца ў пэрыядычных выданьнях, або выдаў зборнік вершаў.

Міжволі паўстае пытаньне: Чаму на працягу чвэрткі стагодзьдзя пісьменьнікі ня пісалі? Ці яны хварэлі ў гэтым часе? І што гэта была за хвароба?

І тут ізноў выкрываюцца злачынствы бальшавізму ў беларускай літаратуры. Гэтыя злачынствы тым больш агідныя й жахлівыя, бо яны завуляваныя ў цяперашніх брудных махінацыях савецкай прэсы. У даведніку, не падымаючы заслоны крывавай мінуўшчыны, пададзеныя, з мэтай прапаганды аб росьце талентаў — імёны мёртвых і жывых ахвяраў бальшывізму. Але ці ўсіх?

Вось мы бачым фотаздымкі драматургаў Галубка і Сташэўскага! А дзе драматург Міхайла Грамыка, аўтар папулярнай п'есы «Каля тэрасы»? Чаму ў кнізе, апрача другарадных перакладчыкаў, няма знаўцы стара-ўсходніх моваў Дрэйзіна, які перакладаў Гарацыя, Віргілія, Гамэра і шэраг опэраў? Чаму няма такіх пісьменьнікаў, як Жылка, Мрый, Калюга, Шукайла, Гародня, Салагуб, Нікановіч, Бобрык, Вішнеўская і шмат іншых?

Магчыма, з часам некаторыя зь іх таксама будуць прыгаданыя. І тады савецкая прапаганда пачне яшчэ больш выхваляцца й нахабна крычэць, што толькі пад кіраўніцтвам мудрай камуністычнай партыі забясьпечана разьвіцьцё беларускае літаратуры.

### ПАДЗЯКА

Гэтым складаем нашу шчырую падзяку Беларусам-арганізатарам канцэрту ў Лёндане і ўсім Беларусам, якія зрабілі нам такое сардэчнае прыняцьце як у Беларускім Грамадзкім Доме, так і ў Беларускім Марыянскім Доме, ды за тыя цудоўныя кветкі, якія яшчэ сяньня цешуць нашае вока й сэрца. Мы вельмі цешымся, што маглі зрабіць хоць маленькі ўклад у нашую агульную нацыянальную справу.

Такія спатканьні не забываюцца.

Шчырае Вам, беларускае дзякуй!

**Барбара Вербіч**
**Галіна Ганчарэнка**

### МІЖНАРОДНЫ КАНЦЭРТ У ЛЁНДАНЕ

(Заканчэньне зь 3-яй бач.)

ліна Ганчарэнка, якія прыбылі дзеля ўдзелу ў канцэрце.

Пасьля Багаслужбы ,па абедзе ўсе накіраваліся ў залю канцэрту.

Увечары ў Беларускім Доме сабраліся Беларусы Лёндану й ваколіцаў, каб вітаць у сябе пасьля ўдалага канцэрту нашых артыстак.

Пасьля некалькіх кароткіх цёплых прывітаньняў сьпявачкі йзноў пацешылі нас выкананьнем цэлага шэрагу беларускіх песьняў.

За ўдалы выступ на канцэрце ў Альбэрт Гол і ў Беларускім Доме нашыя сьпявачкі былі ўзнагароджаныя кветкамі, як прадстаўнікамі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, так і прадстаўнікамі Беларускага Вызвольнага Фронту.

Пасьля ўрачыстай часткі ўсе былі запрошаныя да бяседнага стала, устаўленага рознымі прысмакамі.

Аж да поўначы гучэлі музыка, агульныя сьпевы й танцы ў Беларускім Доме.

На другі дзень нашыя госьці аглядалі Лёндан, а ўвечары, пасьля наладжанай для іх вячэры ў Марыянскім Доме, іх праводзілі на лётнішча, дзе яны ў вельмі непагодны час адляцелі зь Лёндану.

Шчасьці ім Божа!

**М. М.**

**УВАГА! УВАГА!**

**Ужо выйшла з друку асобнай кніжкай у Выдавецтве «Бацькаўшчына» ведамая аповесьць Аляксея Кулакоўскага**

**«ДАБРАСЕЛЬЦЫ»**

**з уводным артыкулам Д-ра Ст. Станкевіча. Кніжка мае 112 бачынаў і каштуе ў ЗША і Канадзе 1,5 даляраў, а ў іншых краінах раўнавартасьць 1 амэр. даляра. Купляць і выпісваць можна з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» й у Прадстаўніцтвах «Бацькаўшчыны» ўва ўсіх краінах паза Нямеччынай.**

БЕЛАРУСЫ ТАРОНТА, ГАМІЛЬТОНУ, АШАВЫ, ЛЁНДАНУ І ВАКОЛІЦАЎ!
КАЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А ГАДЗ. 7-Й ВЕЧАРАМ СЛУХАЙЦЕ
**БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПРАГРАМЫ**
**З РАДЫЯСТАНЦЫІ CHWO**
**Ў OAKVILLE, ONT.**
**НА ХВАЛЯХ 1250**
ПАДТРЫМОЎВАЙЦЕ ІХ АБВЕСТКАМІ

**Пішыце на адрас:**

**127 Dovercourt Rd, Toronto 3, Ont.**

# Навіны з навукі й тэхнікі

Апошнія гады былі наглядным сьветчаньнем выключнага росту выкарыстаньня атамнай энэргіі для мірных мэтаў. Мірны атам ішоў сямімільнымі крокамі па ўсёй шырокай прасторы нашай пляняты. Мэдыцына, прамысловасьць, сельская гаспадарка, навуковыя досьледы, атамная энэргетыка! Ня менш прываблівыя пэрспэктывы адкрываюцца і ў іншых галінах. У гэтым сэньсе асаблівую цікавасьць уяўляе сабой праект, які стаў ведамым пад назовам «перакуем мячы на плугі». Ён распрацоўваецца ў радыяцыйнай лябараторыі пры Каліфарнійскім унівэрсытэце. Ягоная ідэя надзвычай цікавая. Яна зводзіцца да апанаваньня казкавых паводля магутнасьці сілаў, да вытворчасьці ядзерных выбухаў пад прыкрыцьцём. Такім прыкрыцьцём зьяўляюцца зямныя слаі, якія ўбіраюць у сябе радыяактыўныя выпраменяваньні. Вучоныя працуюць над заданьнем выкарыстаньня энэргіі падземных выбухаў вадародных бомбаў для мірных мэтаў. Паводля іхных разьлікаў, мірнае выкарыстаньне ядзернай энэргіі падземных выбухаў вадародных бомбаў можа йсьці ў розных кірунках. Адзін з вучоных ставіць сабе за заданьне палепшыць такім спосабам умовы воднага транспарту на зямной кулі. Сілай ядзерных выбухаў можна ўзрываць калясальныя масы грунту. Гэтыя выбухі дазволяць пракладаць каналы, паглыбляць рэкі, ствараць новыя падземныя рэкі й будаваць вялікія й выгадныя гавані. Каафіцыент карыснага дзеяньня падземных выбухаў будзе настолькі высокі, што ён у шмат разоў зьнізіць затрачваны час і кошты работаў, праводжаных звычайнымі горнатэхнічнымі мэтадамі. Новым мэтадам, з выкарыстаньнем падземных выбухаў вадародных бомбаў, прапануецца стварыць порт на ўзьбярэжжы Аляскі на поўнач ад Палярнага круга.

Стварэньне порту ў гэтым раёне дазволіць значна пашырыць магчымасьці вывазу грузаў. Гэта дасьць магчымасьць павольшыць абыймо эксплаатацыі вугальных залежаў і нафтавых месцанараджэньняў. Разам з тым, адкрываюцца вялікія магчымасьці для разьвіцьця горнавыдабываючай прамысловасьці і, у прыватнасьці, рацыянальнага выкарыстаньня нафтавых багацьцяў пры дапамозе падземных ядзерных выбухаў. Першы выбух, ужыты для пракладкі нафтавай шчыліны, адбыўся амаль сто год таму. Ім адкрылася для выбуховых матар'ялаў шырокая дарога ў нафтавую прамысловасьць. У гэтай справе сэйсьмічная разьведка — найбольш эфэктыўны спосаб для пошукаў нафты.

Але адным адшукваньнем нафты ня вычэрпваецца нафтавая праблема. Пры сучасных мэтадах эксплаатацыі нафтавых залежаў удаецца выдабыць толькі параўнаўча невялікую частку ўсёй нафты, якая залягае ў нафтавых пародах зямлі. Каэфіцыент выкарыстаньня нафтавых залежаў навет у высокаразьвітых прамысловых краінах параўнаўча нявысокі. Як яго павысіць? Як выдабыць гэтую страчаную нафту, бо рэсурсы нафты ў зямной кары нявычарпальныя?

Гэтую праблему могуць разьвязаць цяпер падземныя ядзерныя выбухі, якія дазволяць выкарыстаць гэтыя, нездабываныя дасюль, нафтавыя рэсурсы.

Перад сучаснай тэхналёгіяй горнаабагачальнай справы зьявілася й іншая важная праблема. Прамысловасьць патрабуе ўстойлівых, адпорных на тэмпэратуру, кіслоты й шчолачы сплаваў. Іх удаецца стварыць пры дапамозе гэтак званых малых і рэдкіх мэталяў, такіх, як вольфрам, молібдэн, ніёбій, танталь, ванадзій. Для гэтых рэдкіх мэталяў адкрываюцца таксама вялікія пэрспэктывы і ў атамнай тэхніцы, напрыклад для цырконія. Але цяжкасьць выдабычы такіх мэталяў палягае ў тым, што яны часьцей за ўсё сустракаюцца ў расьцярушаным у іншых пародах выглядзе. За прыклад далёка хадзіць ня трэба: буйнейшыя рэсурсы такога «моднага» ў сучаснай тэхніцы мэталю, як ніёбій, залягаюць у гэтак званых карбонацітах, якія сустракаюцца ў Нарвэгіі й Афрыцы. Пры гэтым працэнт ніёбія ў гэтых пародах не перавышае дзесятых частак працэнту. Гаворачы мовай гарнякоў, даводзіцца выдабываць пустую пароду. Зразумела, што пры падземных спосабах такая дабыча расьцярушаных рудаў абыходзіцца вельмі дорага.

Падобнае становішча мы маем і ў такіх буйных месцанараджэньнях медзі, як, напрыклад, Коўндарскае ў Казахстане, дзе працэнт медзі ў рудзе ў сярэднім не перавышае аднаго працэнту, а ў пэрыфэрыйных зонах навет значна ніжэйшы. Вось чаму ў Амэрыканцаў узьнікае ідэя — выкарыстаць вадародныя ядзерныя выбухі, як своеасаблівую гіганцкую выдабывальную й абагачальную ўстаноўку. Такі выбух стварае ўзрыхленую горную масу. Гэтую масу можна будзе збагачаць шчолачным растворам, які будзе раствараць мінэральныя спалучэньні. Такія мінэральныя растворы шляхам хімічнай перапрацоўкі дадуць канцэнтраты патрэбных мэталяў.

Гэтак, выкарыстаная ядзерная энэргія ў шмат чым заменіць цяжкую й небясьпечную працу гарнякоў і забясьпечыць новую тэхніку запасамі танных рэдкіх і малых мэталяў.

## *Камунікат*

*ГАЛОЎНАЕ ЎПРАВЫ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ Ў ЗША І ГАЛОЎНАЙ ЎПРАВЫ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ*

*Галоўная Ўправа БАЗА й Галоўная Ўправа ЗБК, разгледзеўшы заявы й прапановы ў справе наступнай сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, пастанавілі наступнае:*

*1. IV Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбудзецца ў днях 3, 4 і 5 верасьня 1960 году (**Labor Day**) у горадзе Кліўленд (штат Огайо, ЗША);*

*2. IV Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі будзе дэманстрацыяй нацыянальнай еднасьці Беларусаў, што пражываюць у ЗША й Канадзе, а дзеля гэтага Галоўная Ўправа БАЗА й Галоўная Ўправа ЗБК заклікаюць усе дзейныя арганізацыі на тэрыторыі Паўночнае Амэрыкі й усіх Беларусаў наагул узяць актыўны ўдзел у гэтай традыцыйнай беларускай маніфэстацыі;*

*3. Для належнай арганізацыі й правядзеньня IV Сустрэчы — творыцца Каардынацыйны Камітэт у складзе:*
*Старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА,* 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.
*Старшыня Галоўнае Ўправы ЗБК,* 111 Lindsey Ave., Toronto, Ont., Canada.
*Старшыня Аддз. БАЗА Кліўленд,* 3517 West 25th St. Cleveland 9, Ohio.

*Усе зацікаўленыя справай IV Сустрэчы могуць зьвяртацца да вышэй пададзеных арганізацыяў.*

*Галоўная Ўправа БАЗА*
*Галоўная Ўправа ЗБК*

*Нью Ёрк — Таронта, студзень 1960.*


**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
Mr. Aleksander Laszuk, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
Mr. A. Maroz, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
Mr. W. Akavity, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
Mr. C. Cimafiejčyk, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
Mrs. L. Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
Mr. B. Danilovich, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
Mr. Ul. Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.
Mr. W. Kasztelan, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.